# Прадаўжэнне да бясконцасці,

## або Аб праблемах групы прадоўжанага дня

Шасцігадовая Ірынка, прачынаючыся ранкам, кожны раз задавала матулі адно і тое ж пытанне: "Колькі дзён засталося да школы?" І, уздыхнуўшы, часта дадавала: "Хутчэй бы! Так павольна цягнецца час".

І вось нарэшце доўгачаканае першавераснёўскае свята. За гадзіны дзве, пакуль яшчэ ўсе адпачывалі, Ірынка сама прачнулася, адзела школьную сукенку, прыкалола ў доўгія валасы беласнежныя банты і толькі тады гучным голасам устрывожыла кватэру камандай: "Пад'ём!"...

З такім жа гарачым жаданнем яна не ішла, а можна сказаць подбегам спяшалася да школы тыдні са тры.

А потым нешта здарылася. Самая першая гэта адчула матуля: "Што з табою, дачушка?". Дзяўчынка пераміналася з нагі на нагу, апускала ніжэй галаву і маўчала. Аднойчы матуля асмелілася і задала тое трывожнае пытанне, якое хвалявала яе: "Табе падабаецца ў школе?". "Так", — стрымана адказала дачушка, але па выразе яе твару было бачна, што прычына кудысьці зніклага настрою, дзесьці блізка. "Ты любіш сваю першую настаўніцу?" — працягвала мама. "Вельмі", — коратка адказала малая. "І выхавальніцу таксама любіш?" У адказ наступіла доўгае маўчанне. Жанчына перапытала зноў. Дзяўчынка, адчуўшы, што мама настойліва чакае адказу, прамовіла ціха: "Крыху люблю". "А чаму так? Яна ж у вас такая прыгожая, добрая..."

Доўгай і хвалюючай для абедвюх была тая адкрытая шчырая размова. Тады ж матуля зразумела, што нават у такім маленькім узросце ў дзяцей бываюць вялікія праблемы. Магчыма, першыя сур'ёзныя жыццёвыя выпрабаванні. Аказваецца, па словах дачушкі і яе сяброўкі, прыгожая маладая выхавальніца часта бывае вельмі раздражнёнай, узбуджанай, ад яе рэдка пачуеш добрае слова...

Найчасцей у групе прадоўжанага дня дзеці сутыкаюцца з крыкам, часам не заслужанымі, на іх погляд, папрокамі. Карацей кажучы, другая палова дня ў шасцігодак праходзіць у атмасферы напружанасці і нервовасці.

Але гэта, як кажуць, адзін бок медаля. Безумоўна, нам так хочацца, каб нашы дзеці траплялі да выхавальніка і настаўніка, якія не толькі добрыя педагогі, але і мудрыя, чулыя, спагадлівыя, далікатныя ў адносінах з выхаванцамі. Дзеці, як, дарэчы, і мы, дарослыя, вельмі чуйныя і ранімыя. З радасцю яны ўспрымаюць пахвалу і, зразумела, са сціснутым ад болю сэрцам разнастайныя папрокі, прэтэнзіі, прыніжэнні... На жаль, і апошняе нярэдка сустракаецца, нават у адносінах да шасцігодак.

Прыгадваецца, як пасля паездкі ў Данію загадчык аддзела адукацыі Іванаўскага райвыканкама Павел Паўлавіч Баранчык падкрэсліваў, што ў гэтай еўрапейскай краіне да кожнага вучня на справе адносяцца як да асобы, як да Дацкага прынца. Вось каб мы дараслі да такога ўзроўню!

Відаць, трэба расці. І не толькі педагогам Іванаўшчыны. Бо закон сяўбы і жніва спрадвечны. Тое, што закладзецца ў дзіцячыя светлыя душы з ранняга школьнага жыцця, што пасеецца ў іх адкрытых сэрцах, абавязкова ў свой час узыдзе. І тады прыйдзецца пажынаць. Дык няхай жа гэтае насенне будзе сапраўды добрым і здаровым.

Але вернемся да "нулявічкоў", тых, хто наведвае падрыхтоўчы клас агульнаадукацыйнай школы. Адпрацаваўшы з 8 да 17 гадзін вечара пад строгім наглядам настаўніцы, а потым выхавальніцы, яны разыходзяцца дадому. Тут бы лёгка ўздыхнуць, адпачыць, пагуляць на свежым паветры. Ды не. Адпускаючы дзетак са стомленымі пасля рабочага дня матулямі ды татамі, выхавальніца спяшаецца кожнаму растлумачыць, якія заданні зададзены на дом па пісьму, матэматыцы, чытанню. Бацькі як дысцыплінаваны народ паслухмяна выслухоўваюць, укладваюць у свае сумкі школьныя падручнікі і развітваюцца. А ў галаве мрояцца думкі: "Як паспець усё?" Трэба ж і вячэру прыгатаваць, і з гаспадаркай управіцца, і бялізну памыць ды яшчэ і ўрокі зрабіць.

Але нікуды не дзенешся. Сабраўшы нервы ў кулак, прагортваюць бацькі школьныя падручнікі, асвойваюць занава правілы, да прыкладу, калі галосныя маюць два гукі, прыгадваюць зычныя, перабіраюць у памяці трохскладовыя словы (а іх трэба прыдумаць і запісаць у сшытак), успамінаюць, калі ў сказе пішацца "ў"...

Добра, калі маці ці тата выдатна вучыліся ў школе або маюць вышэйшую адукацыю. Для іх гэта не складана. А калі бацькі самі былі "сераднячкамі", працуюць на заводзе ці ў калгасе? Тады падключаюцца старэйшыя брацікі ці сястрычкі або суседзі. Такім чынам з "нулявічком" бывае значна больш праблем, чым з вучнем старшых класаў. Ці не так?

Цяпер становіцца зразумелым, чаму ў дзяцей з падрыхтоўчага класа хутка губляецца цікавасць да школы, да вучобы. Наколькі мне вядома, праграма ў "нулявічкоў" надзвычай насычаная, патрабуе нямала сіл, здароўя. Таму галоўнае тут... не згубіць самага каштоўнага — жадання вучыцца, жывой непасрэднай цікавасці да прадметаў.

"Педагагічны працэс павінен даць дзіцяці радасць жыцця, — адзначаў знакаміты педагог Ш.А.Аманашвілі. — Толькі ў гэтым выпадку дзіця зможа ўбачыць свой рух наперад, паверыць у сябе і свае сілы, не будзе супраціўляцца педагагічнаму ўздзеянню, а значыць, не стане цяжкім".

Нельга не пагадзіцца з гэтым выказваннем. Гэтую ж думку пацвярджаюць і многія знаёмыя мне педагогі — Людміла Мікалаеўна Лагодзіч, Ала Сцяпанаўна Скопчык, Таццяна Фамінічна Паўлюкавец...

Вывучаючы гэтае пытанне, я даведалася, што згодна з патрабаваннямі школьнай рэформы дамашнія заданні ў падрыхтоўчых класах не прадугледжваюцца. Бо менавіта яны з'яўляюцца галоўнай крыніцай перагрузкі дзяцей. Атрымліваецца, што працоўны дзень "нулявічка" перавышае рабочую норму дарослага на прадпрыемстве.

Давайце задумаемся, паразважаем усе разам. І зробім адпаведныя вывады.

...Нядаўна сустрэла Ірынку, дачушку маёй знаёмай. Яна цяпер ходзіць у другі клас. Наведвае музычную школу. Выдатніца, актывістка. Да дзяўчынкі, дзякуй Богу, вярнулася прага ведаў. Яна шмат чытае. А самае галоўнае — з вялікай ахвотай спяшаецца раніцай на ўрокі...

Шчыра парадавалася, што на яе школьнай сцяжынцы сустрэліся сапраўдныя, улюбёныя ў сваю справу педагогі.

А магло б быць інакш...

**Надзея КУХАРЧУК.**



Мінскаму інстытуту кіравання — 10 год

# Укладваць грошы ў адукацыю — выгадна



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

заўсёды быў у прафесійнай форме, каб павышалася якасць вучэбнага працэсу. Штодня трэба планаваць і вырашаць галоўнае — чаму вучыць, як вучыць і каму вучыць.

У нас вельмі высокая заработная плата — самыя высокія ў краіне стаўкі. Так, прафесар сёння атрымлівае 550 тысяч рублёў у месяц, а з новага года мяркуецца зрабіць яго зарплату эквівалентнай 700 доларам ЗША. Такая высокая зарплата дапамагае прыцягнуць у інстытут людзей, і вельмі важна ўзяць лепшых. Мы глядзім у першую чаргу, як расце вучоны, што ён піша і што напісаў за апошні час, што ён робіць, каб павысіць свой статус. І мы адразу ставім умовы маладым выкладчыкам без вучонай ступені: магістратура, аспірантура... Чалавек — вучоны, педагог — павінен прагрэсіраваць.

Ужо чатыры гады ў нас працуе аспірантура, і мы спадзяемся, што да канца года першыя нашы выхаванцы абароняць дысертацыі. Аспіранты, якія працуюць у інстытуце, вучацца за яго кошт. Такім чынам, для людзей, што мараць пра навуку і выкладчыцкую дзейнасць, у нас ёсць усе ўмовы і добрая матывацыя.

**— Як, на Ваш погляд, будзе далей развівацца сістэма платнай адукацыі?**

— Сусветная практыка паказвае, што сектары платнай і бясплатнай адукацыі могуць і павінны мірна суіснаваць. Толькі гаворка не павінна ісці пра формы ўласнасці (прыватная ці дзяржаўная), трэба гаварыць пра адукацыю платную ці бясплатную.

Я лічу, што платная адукацыя мае свае перавагі. Яна стымулюе і студэнтаў, якія павінны ведамі акупіць выдаткі на адукацыю, і выкладчыкаў, якім за добрую зарплату можна прад'явіць высокія патрабаванні. Платная адукацыя дазваляе мець мабільныя фінансавыя рэсурсы, каб прымяніць новыя тэхналогіі, купіць сучасную літаратуру і г.д.

Вельмі добра, што дзяржаўныя ВНУ адкрываюць платнае навучанне. Гэта дазваляе і ім паляпшаць матэрыяльную базу, стымуляваць працу выкладчыкаў.

Нельга супрацьпастаўляць у нашай краіне прыватныя ВНУ дзяржаўным. Мы павінны працаваць разам над агульнай задачай — падрыхтоўкай кадраў. Прыватныя ВНУ робяць важнейшую для краіны справу — і не патрабуюць у дзяржавы грошай, а плацяць у бюджэт падаткі. Нашы ж выпускнікі ідуць працаваць у нацыянальную эканоміку.

Беларусь не мае багатых прыродных рэсурсаў, ёй трэба разлічваць на інтэлектуальны рэсурс, на тэхналогіі. Таму інвестыцыі ў адукацыю тут самыя выгадныя.

У новым веку вышэйшая адукацыя будзе абавязковай умовай актыўнага жыцця, добрай працы і заможнасці. А таму ўкладваць грошы ў адукацыю — выгадна, бо потым іх можна спаўна вярнуць.

**Галіна СІДАРОВІЧ.**

НА ЗДЫМКАХ: рэктар Мінскага інстытута кіравання Мікалай Васільевіч Суша; адзін з карпусоў інстытута; заняткі ў камп'ютэрным класе; кароткі адпачынак перад лекцыяй.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

## Навіны

### Падтрымку атрымліваюць таленавітыя

Рашэнне Савета спецыяльнага прэзідэнцкага фонду па падтрымцы таленавітай моладзі зацвердзіў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка. Стыпендыю з фонду Прэзідэнта ў памеры ад 112,5 да 187,5 тысячы рублёў будуць атрымліваць больш за 50 адораных вучняў і студэнтаў, а разавую матэрыяльную дапамогу ў памеры 75 тысяч рублёў — 27 з іх. Пры гэтым яны вызвалены ад уплаты падаходнага падатку.

На інструменты для раённых дзіцячых музычных школ, матэрыялы для заняткаў выяўленчым мастацтвам выдзелены адпаведныя грашовыя сродкі. Пры гэтым на набыццё сцэнічных касцюмаў дзевяці творчым калектывам вызначана 210 мільёнаў рублёў. У іх ліку: "Чараўніцы" Лепельскай дзіцячай школы мастацтваў, харэаграфічны ансамбль "Альянс" з Бабруйска, узорныя харавыя калектывы дзіцячых музычных школ № 1 Гродна і № 10 Мінска.

Падтрымку адораная і таленавітая моладзь згодна з праграмай Прэзідэнта будзе атрымліваць і ў далейшым.

### Інтэрнет-цэнтр у бібліятэцы

Ужо ў гэтым месяцы ў Інтэрнет-цэнтры Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук можна азнаёміцца з навейшымі дасягненнямі сусветнай навукі і тэхнікі.

Не толькі вучоных, але спецыялістаў розных галін ведаў і студэнтаў ВНУ зацікавяць 400 паўнатэкставых электронных версій часопісаў па ўсіх накірунках фундаментальных даследаванняў. З 800 выданняў з усяго свету асвятляюць, напрыклад, медыцынскую тэматыку.

У цэнтры можна будзе не толькі працаваць у сетцы, але і атрымаць кваліфікацыйную кансультацыю спецыялістаў і, безумоўна, азнаёміцца з праграмным забеспячэннем і пошукавымі сістэмамі. Для гэтага тут ёсць адпаведныя інфармацыйныя базы — цяпер іх тут каля дзесяці. Расійскія, што варта адзначыць, складаюць асноўную іх частку.

**Пётр ШУБЯНОК.**

### Шэсць разоў на тыдзень

Навучэнцы сталічных ліцэяў, гімназій і іншых навучальных устаноў з паглыбленым вывучэннем тых ці іншых прадметаў будуць у абавязковым парадку займацца 6 разоў на тыдзень. Першы намеснік старшыні Камітэта адукацыі урада Масквы Ларыса Курняшова падпісала загад "Аб выкананні гігіенічных патрабаванняў да арганізацыі адукацыйнага працэсу ў агульнаадукацыйных установах г. Масквы", які забараніў кіраўніцтву такіх школ уводзіць пяцідзёнку. Мяркуецца, што такім чынам удасца значна знізіць вучэбную нагрузку гімназістаў і ліцэістаў, якія сёння вымушаны сядзець за партай па 8-9 урокаў штодзень. Гэты крок маскоўскіх улад не першы — у мінулым годзе было канчаткова ўведзена чатырохгадовае (замест ранейшага трохгадовага) навучанне ў пачатковай школе.

Акрамя адмены пяцідзённага навучання новы загад забараняе і наведванне школы ў другую змену. Тыя бацькі, што больш за ўсё хвалююцца за своечасовае вяртанне сваіх дзяцей з ліцэяў і гімназій, могуць уздыхнуць з палёгкай. У адпаведнасці з загадам, колькасць урокаў у старшых класах не павінна перавышаць шэсць, а ў малодшых — пяць у дзень. Аб'ём хатняга задання не павінен быць большым за палову аўдыторнай нагрузкі. Паколькі колькасць урокаў будзе меншай, то зменшацца і хатнія заданні. Факультатывы і індывідуальныя заняткі будуць праводзіцца толькі ў тым выпадку, калі іх увядзенне не павялічыць аб'ём максімальна дапушчальнай нагрузкі.

### "Мядзведзі" ўзяліся за адукацыю

Палітсавет партыі "Единство" і яе фракцыя ў Дзяржаўнай Думе на сваім пасяджэнні, якое адбылося ў Санкт-Пецярбургу, абмеркавалі і зацвердзілі ўласны план развіцця школы. Сярод прапаноў, якія агучыў лідэр думскіх "мядзведзяў" Уладзімір Пехцін, — замацаванне за дырэктарамі расійскіх адукацыйных устаноў статуса дзяржаўных служачых, прыняцце закона "Аб фактalагічнай цэнзуры падручнікаў у імя дакладнасці гістарычных фактаў" і некаторыя іншыя..

# Па старонках Інтэрнета

### Адбыўся віртуальны педсавет

Напярэдадні новага навучальнага года ў Расійскай Федэрацыі адбыўся віртуальны педсавет, падчас якога ўсе жадаючыя маглі задаць пытанні кіраўнікам і спецыялістам Міністэрства адукацыі, іншых ведамстваў, што ўдзельнічалі ў гэтым праекце.

На адкрыцці мерапрыемства выступіў міністр адукацыі Уладзімір Філіпаў. Ён зазначыў, што ў бліжэйшыя два месяцы ўсе сельскія школы краіны будуць аснашчаны камп'ютэрнай тэхнікай і праграмным забеспячэннем. Настаўнікі гэтых школ да канца бягучага года пройдуць навучанне на адпаведных курсах. На гэтыя мэты з дзяржаўнага бюджэту будзе выдаткавана каля 2 мільярдаў рублёў.

Міністр таксама сказаў, што адна з галоўных задач яго ведамства зараз — стварэнне індустрыі распрацоўкі электроннага адукацыйнага прадукту, якую можна будзе параўнаць з існуючай індустрыяй выпуску друкаваных падручнікаў. Мінадукацыі павінна прадставіць адпаведны заказ на конкурснай аснове. У цяперашні час рыхтуюцца тэхнічныя патрабаванні да будучых вучэбных дапаможнікаў. Да верасня наступнага года міністэрства плануе накіраваць у школы ўзоры электронных падручнікаў па 30 прадметах.

### Як вучацца ў Вялікабрытаніі

У кожнай з гістарычных частак Вялікабрытаніі — Англіі, Шатландыі, Уэльсе і Паўночнай Ірландыі ўстановы адукацыі падпарадкоўваюцца органам мясцовай выканаўчай улады, распрацоўка агульнадзяржаўных стандартаў знаходзіцца ў распараджэнні цэнтральнага міністэрства адукацыі.

Дзяржаўны вучэбны план устанаўлівае пералік і аб'ём прадметаў, якія павінен вывучыць кожны школьнік. Ён быў прыняты згодна з законам аб дзяржаўнай адукацыі ў 1988 годзе і ўпершыню ўведзены ў школах Англіі і Уэльса з верасня 1989 года. План у абавязковым парадку распаўсюджваецца толькі на дзяржаўныя школы, і, у той жа час, з'яўляецца базавым для прыватных устаноў. Трыма важнейшымі прадметамі з'яўляюцца англійская мова, навука і матэматыка. Сярод асноўных дысцыплін, што вывучаюцца ў школе, — мастацтва, геаграфія, гісторыя, музыка, замежныя мовы (толькі ў сярэдняй школе), фізічная культура.

Усе дзяржаўныя школы павінны кіравацца Асноўным вучэбным планам, які ўключае галоўныя прадметы і рэлігійную адукацыю. Яны таксама павінны прытрымлівацца навучальных планаў, распрацаваных для кожнай з узроставых груп вучняў: з 5 да 7, з 7 да 11, з 11 да 14, з 14 да 16 гадоў. Спачатку, ва ўзросце ад 5 да 7 гадоў, дзеці наведваюць падрыхтоўчыя, з 7 да 11 — пачатковыя, з 11 да 16 — сярэднія школы.

Сярод пачатковых школ вылучаюцца ўстановы дзённага тыпу (дзяржаўныя і прыватныя) і пансіёны (прыватныя). Ёсць асобныя школы для хлопчыкаў і дзяўчынак, а таксама школы сумеснага навучання.

Сярэднія школы падзяляюцца на агульнаадукацыйныя, з паглыбленым вывучэннем прадметаў, і сярэднія спецыяльныя. Выпускнікі сярэдняй школы атрымліваюць сертыфікат GCSE (General Certificate of Secondary Education), аднак, у адрозненне ад айчыннага атэстата аб заканчэнні сярэдняй школы, ён не дае права паступлення ў ВНУ.

Навучанне ў поўнай сярэдняй школе заканчваецца экзаменамі і атрыманнем сертыфікатаў GSE-A- Level (Advanced Level) ці AS-Levels (Advanced Supplementary). A- Level экзамен звычайна здаюць праз 2 гады пасля атрымання GCSE. Да экзаменаў рыхтуюць у шостых класах сярэдніх школ альбо каледжах.

Традыцыйна навучэнцы, якія здаюць гэты экзамен, абіраюць вывучэнне 2 альбо 3 прадметаў аднаго навуковага накірунку, напрыклад, мовы, тэхнічных альбо гуманітарных дысцыплін. Апошнім часам, праўда, з'явілася тэндэнцыя вывучэння прадметаў з розных галін ведаў. Прахадных балаў 5 : ад А (выдатна) да Е (здавальняюча). Вучні, што не паказалі дастатковы ўзровень ведаў, атрымліваюць ацэнку N. Нядаўна была ўведзена ацэнка "super —A" для асабліва адораных вучняў. Сістэма адзнак праграмы AS-Levels такая ж, адсутнічае толькі "super —A".

Сертыфікат А- Level альбо дыплом аб заканчэнні падрыхтоўчых курсаў — неабходная ўмова для паступлення ў ВНУ. Падрыхтоўчыя курсы прапануюць многія навучальныя ўстановы Вялікабрытаніі. Яны прызначаны для іншаземцаў, якія жадаюць пасля заканчэння школы ў сваёй краіне атрымаць адукацыю ў англійскіх ВНУ.

Далейшую адукацыю (Further Education) можна разглядаць як своеасаблівы аналаг нашай сярэдняй спецыяльнай. Каледжы далейшай адукацыі звычайна прапаноўваюць шэраг прафесійных курсаў, а таксама курсы па акадэмічных праграмах. Пры жаданні выпускнікі каледжа могуць паступіць адразу на другі курс універсітэта. У Англіі і Уэльсе налічваецца каля 500 каледжаў далейшай адукацыі, у якіх на дзённых аддзяленнях навучаюцца каля паўмільёна студэнтаў, а на вячэрніх — больш за 3 мільёны.

Па заканчэнні навучання здаюцца кваліфікацыйныя экзамены National Vokational Qualification (NVQs) і General National Vokational Qualification (GNVQs) па той ці іншай прафесіі. Экзамен NVQs падзяляецца на 5 узроўняў (ад 1 — самага простага да 5 — прафесійнага). Ён уяўляе сабой не тэарэтычны пісьмовы тэкст, а праверку прафесійных навыкаў і ўменняў. Пры гэтым ацэнка грунтуецца на выніках практычнай работы студэнтаў.

Экзамен GNVQs ацэньвае агульныя ўменні і не прывязаны да пэўнай прафесіі. Як і NVQs, ён падзяляецца на ўзроўні: асноўны, сярэдні і павышаны.

Праграма вышэйшай адукацыі разлічана на трох-чатырохгадовае навучанне на дзённым аддзяленні каледжа ці універсітэта. У Вялікабрытаніі 89 універсітэтаў і 70 іншых ВНУ, 39 з якіх створаны пасля 1992 года. Усе універсітэты, акрамя трох прыватных, падтрымліваюцца дзяржавай. У сярэднім па краіне больш за 30% выпускнікоў школ паступаюць у ВНУ, каля 10% студэнтаў — грамадзяне замежных краін.

Мэтай вышэйшай адукацыі з'яўляецца атрыманне ступеняў бакалаўра, магістра альбо доктара. Маючы першую з пералічаных ступеняў, можна разлічваць на пасаду інжынерна-тэхнічнага ці сярэдняга кіруючага склад. Далейшая вышэйшая адукацыя і аспірантура — працэс больш доўгі. Для атрымання ступені магістра неабходна правучыцца дадаткова 1-2 гады на дзённым аддзяленні універсітэта, уключаючы стажыроўку і абарону дыплома. Навучанне ў аспірантуры займае яшчэ 1-3 гады самастойнай даследчыцкай працы ва універсітэце і заканчваецца абаронай дысертацыі. Ступень доктара эквівалентна ступені кандыдата навук у СНД.

### Дзяржсавет вызначыў асноўныя накірункі мадэрнізацыі адукацыі

Пасяджэнне Дзяржсавета Расійскай Федэрацыі па пытанні рэфармавання адукацыі пайшло ў канструктыўнай атмасферы. Упершыню прадстаўнікі урада і рэгіянальныя лідэры прыйшлі да згоды па асноўных пытаннях.

Паколькі тэрмін "рэформа" ў адносінах да адукацыі выклікае шмат адмоўных эмоцый, вырашылі карыстацца словам "мадэрнізацыя". Усе ўдзельнікі пасяджэння адназначна разумеюць неабходнасць пераменаў. Па словах Прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна, сёння ў краіне шмат адукаваных людзей, але катастрафічна не хапае спецыялістаў. Такая сітуацыя павінна быць зменена.

Дзяржава, зазначыў Прэзідэнт, павінна захаваць бясплатную адукацыю, павысіць фінансаванне, умацаваць матэрыяльна-тэхнічную базу адукацыйнай сістэмы.

Дзяржаўны Савет Расійскай Федэрацыі адобрыў канцэпцыю мадэрнізацыі адукацыі, якая прадугледжвае шэраг важных палажэнняў.

Так, у прыватнасці, ужо ў гэтым годзе сярэдняя заработная плата настаўнікаў павінна быць павялічана амаль у 2 разы і складаць (без рэгіянальных надбавак) 2256 рублёў. Маладым спецыялістам абяцаюць ільготы на атрыманне жылля і адтэрміноўку ад службы ў арміі.

У бягучым годзе плануецца таксама перавесці сярэднія школы з падпарадкавання муніцыпалітэтаў на ўзровень суб'ектаў федэрацыі. Фінансавацца яны будуць напрамую з рэгіянальных бюджэтаў. Штогод колькасць сродкаў, якія выдзяляюцца на патрэбы адукацыі, будзе павялічвацца прыкладна на 25 працэнтаў. Фінансаванне будзе мэтавым, што дазволіць пазбегнуць выкарыстання сродкаў не па прызначэнні.

Для прыцягнення прыватных сродкаў (у першую чаргу самых бацькоў) пры школах плануецца стварыць апякунскія саветы, што зробіць сістэму гэтых збораў празрыстай. Прапануецца надаць падатковыя льготы сем'ям, якія ўкладаюць грошы ў адукацыю дзяцей.

Прадугледжваецца глабальная інфарматызацыя ўсіх школ, якая ўключае ў сябе аснашчэнне камп'ютэрнай тэхнікай (у бягучым годзе), а таксама доступ да Інтэрнет.

З гэтага года плануецца пачаць ажыццяўленне змяненняў у структуры і змесце агульнай адукацыі. Дзяржава будзе устанаўліваць адукацыйныя стандарты, прадаставіўшы школам магчымасць выкарыстоўваць аўтарскія і варыянтныя праграмы. Мяркуецца адмовіцца ад перагружаных вучэбных планаў і праграм, аптымізаваць вучэбную, псіхалагічную і фізічную нагрузку вучняў. Старэйшыя класы паступова будуць ператварацца ў профільныя і арыентаваць на паступленне ў канкрэтныя ВНУ.

Эксперымент па правядзенні адзінага дзяржаўнага экзамена замест выпускных у школе і ўступных у ВНУ, які ажыццяўляўся ў гэтым годзе ў 6 рэгіёнах, у 2002 будзе пашыраны на 10 рэспублік, краёў і абласцей. Права паступлення па выніках гэтага экзамена пакуль абмяжуецца толькі рэгіянальнымі ВНУ. Нягледзячы на падтрымку новаўвядзення большасцю насельніцтва і рэгіянальных лідэраў, канчатковае рашэнне адкладваецца да 2006 года. Тады ж вырашыцца і пытанне аб увядзенні сістэмы фінансавання ВНУ праз дзяржаўныя імянныя фінансавыя абавязацельствы (ДІФА), якія будуць прыносіць з сабой выпускнікі школ. Права на бясплатнае навучанне — ДІФА з максімальным грашовым забеспячэннем — атрымаюць толькі тыя, хто здолее здаць адзіны экзамен на "выдатна". Астатнім, у залежнасці ад вынікаў экзамена, давядзецца ў большай ці меншай ступені плаціць за вышэйшую адукацыю.

### Камп'ютэрныя тэхналогіі ў школах ЗША

Навучальныя ўстановы ў развітых краінах свету хутка ператвараюцца ў высокатэхналагічныя інфармацыйныя цэнтры. Часы, калі ў школах выкарыстоўваліся кіна і слайд-праектары, адышлі назаўсёды.

Па інфармацыі ABC News com. каля 98 працэнтаў амерыканскіх школ маюць доступ да Інтэрнет, што дае спецыялістам падставы заяўляць аб гатоўнасці адукацыйнай сістэмы краіны да новага якаснага скачка. Аснашчэнню ўстаноў адукацыі камп'ютэрамі паспрыяла і тое, што ў рамках праграмы e-Rate школам і бібліятэкам ЗША прадастаўляюцца значныя скідкі (ад 20 да 90 працэнтаў) на карыстанне камунікацыйным сервісам і доступам да Інтэрнет.

Ужо сёння камп'ютэрныя тэхналогіі аказваюць значны ўплыў на навучальны працэс. Так, згодна з вынікамі праекта Apple Classrooms of Tomorrow, які праводзіўся ў 1985-1998 гадах, дзякуючы ўкараненню новых тэхналогій, вынікі школьных экзаменаў палепшыліся на 10-15 працэнтаў. Прычына, на думку даследчыкаў, заключаецца ў тым, што дзяцей захапляе ўсё новае, і з камп'ютэрам яны навучаюцца нашмат хутчэй, чым з алоўкам і паперай.

Па меркаванні спецыялістаў, доступ да Інтэрнет з'яўляецца не толькі велізарнай крыніцай інфармацыі, але і дае магчымасць праявіць большую актыўнасць у навучанні. Ствараючы ўласныя Web- старонкі і сайты, вучні атрымліваюць дастаткова вялікі стымул да развіцця і самавыяўлення.

Даследчыкі ў галіне адукацыйных тэхналогій спадзяюцца, што камп'ютэры з Інтэрнет-доступам дапамогуць настаўнікам працаваць у больш цесным кантакце з бацькамі, улічваць індывідуальныя асаблівасці кожнага вучня. Хаця ўсе разумеюць, што камп'ютэры — не панацэя. Гэта — толькі сімвал сённяшняга часу.

# У пагоні за монстрам з Лох-Неса

(Заканчэнне.
Пачатак у № 106.)

Пасля гэтага на цэлую тысячу гадоў дзіўная жывёліна бясследна знікла. Толькі ў XVI стагоддзі яна згадваецца ў "Гісторыі Шатландыі". Потым пра яе ўспаміналі ў 1933 годзе. З таго часу відавочцы "сустракаліся" з Нэсі больш за чатыры тысячы разоў. Для тых жа, каму не пашанцавала, у мясцовых сувенірных крамах прадаюць гумавыя копіі Нэсі ў амаль натуральную велічыню. Зрэшты, мясцовыя майстры вельмі вынаходлівыя: выявы і фігуркі Нэсі сустракаліся амаль на ўсіх таварах. Запальніцы, конаўкі, бірулькі, кніжкі-раскладушкі, паштоўкі, карцінкі і фатаграфіі, нібыта знятыя з натуры, — усё гэта вывальвалася на прылаўкі і раскуплялася ў фантастычнай колькасці.

Дарэчы, пра фатаграфіі пачвары. Гісторыя захоўвае шмат спроб сфатаграфаваць Нэсі пры яе ўсплыцці на паверхню. У красавіку 1934 года лонданскі ўрач Кенет Уілсан як быццам паспеў двойчы сфатаграфаваць загадкавага яшчара. Здымкі абышлі ўсе газеты свету, але практычна паўсюды да іх паставіліся з недаверам. Былі і іншыя фатаграфіі, зрэшты, нешматлікія, аднак яны не ўнеслі асаблівай яснасці ў вырашэнне загадкі.

У першы дзень знаходжання на возеры Лох-Нес мы не вельмі ўнікалі ў гісторыю, звязаную з мясцовай славутасцю. Ніхто з нас нават не набыў нічога з тавараў з сімволікай Нэсі. Пасля начлегу каля возера мы накіраваліся яшчэ далей на поўнач, туды, дзе сустракаюцца Паўночнае мора і Атлантычны акіян. Крыху далей за паўночны край возера, звязаны з залівам Моры-Ферт рукатворным Каледонскім каналам, знаходзіцца ціхі і ўтульны гарадок Інвернес. Ад яго заставалася гадзіны паўтары язды да самога паўночнага краю Вялікабрытаніі, за якой пачыналіся Оркнейскія астравы.

Мы выбралі канчатковай мэтай сваёй экспедыцыі маленечкі гарадок Мелнес. Аднак чым далей мы ехалі, тым больш вузкімі і крутымі станавіліся горныя шатландскія дарогі. Рух быў аднабаковым, раз-пораз даводзілася вырульваць на спецыяльныя пляцоўкі, каб прапусціць сустрэчныя машыны. Таму мы дабраліся толькі да фіёрда, які выходзіў у акіян. Раскіданая па ўзбярэжжы шатландская вёсачка сустрэла нас цудоўным сонечным надвор'ем. Мы спыніліся на шашы, якая адразу за абрывам крута спускалася да акіяна, дзе бялеў велізарны пясчаны пляж. Лянівыя воды Атлантыкі мерна набягалі на бераг. Непаўторныя пейзажы, чыстая блакітная вада, старадаўнія могілкі з каплічкай на абрывістым беразе. Мы пахадзілі па вільготным пясочку, паспрабавалі, няхай і ненадоўга, увекавечыць на ім свае імёны, сфатаграфаваліся. Далей, наколькі можна было бачыць, прасціралася акіянская гладзь, падарожнічаць па якой у нашы планы не ўваходзіла. Палова маршруту была пераадолена.

Назад да возера вярталіся іншай дарогай, якая праходзіла па другім беразеа Лох-Неса. Бераг быў на рэдкасць нязручным, дарога ціснулася да кромкі берага. Спецыяльных месцаў для турыстаў не прадугледжвалася. Аднак менавіта тут, непадалёк ад замка Уркхат, Нэсі з'яўляецца часцей за ўсё. Не менш як 15 разоў бачыла рэптылію жанчына, якую завуць Уініфрэд Кэры. Вось што яна напісала пра ўбачанае ў 1954 годзе: "Тады ліпень быў даволі спякотным. Лох быў спакойны і вада ў ім была нерухомая, як у млынавым стаўку. Я стаяла паблізу возера на пагорку і карміла курэй. Раптам я ўбачыла нешта дзіўнае на процілеглым беразе возера: з адлегласці паўтары мілі мне падалося, што гэта, хутчэй за ўсё, рыбалавецкі бот з адной тоўстай мачтай. Мне было не зразумела, што мог рабіць такі вялікі бот даўжынёй 10-15 метраў так блізка ад берага. Раптам бот павярнуўся і памчаўся, перасякаючы возера, з неверагоднай хуткасцю, прама на мяне. Тады мне стала зразумела, што я бачыла не мачту, а шыю жывёліны з высока пасаджанай галавой; гэткую ж карціну я назірала ў мінулы раз, у 1917 годзе, будучы адзінаццацігадовай дзяўчынкай. Тады са мной быў мой малодшы брат. Калі пачвара наблізілася да замка, перад ёй з вады выскачыў вялікі ласось, які спрабаваў уцячы. Я зразумела, што звер праследаваў рыбу, безумоўна, рыбу; у той жа момант я ўбачыла горб. Я пабегла ў дом і паклікала мужа: "Базіл, — закрычала я, — паглядзі!" Але калі ён выйшаў, жывёліна ўжо знікла, толькі па руху вады можна было ўстанавіць месца, дзе яна апусцілася".

У пошуках месца для начлегу мы павольна рухаліся да паўднёвага краю возера. Мяркуючы па ўспамінах відавочцаў, Нэсі іншым разам "гасцявала" і тут. Святар Грэгары з манастыра Форта Аўгуста ўспамінаў: "Была прыемная раніца, сонца прыгравала, і паверхня возера была гладкай, нібы люстэрка". Нечакана ён і яго спадарожнік заўважылі "моцнае хваляванне на возеры, услед за чым на паверхні з'явілася чорная шыя прыкладна 15 сантыментаў у дыяметры і горб у 2-3 метры вышыні. Усё гэта ўзнялося, потым апусцілася, перавярнуўшыся назад. Нічога падобнага ні на лодку, ні на ствол дрэва, ні на рыбу. Гэта была, без сумнення, нейкая жывёліна".

Як ні дзіўна, амаль усе назіральнікі лічылі, што азёрная пачвара мае вялізныя памеры і незвычайнае аблічча. Як правіла, яны гаварылі пра змеепадобную істоту, у якой было ад двух да сямі гарбоў. Плавае, маўляў, пачвара з хуткасцю маторнай лодкі і важыць ледзь не 20 тон. Наша экспедыцыя, зрэшты, не можа нічога ні адняць, ні прыбавіць да ўжо сказанага. Аб'ехаўшы Лох-Нес з поўдня, мы вырашылі паначаваць не ў палатках, а ў больш цывілізаваных умовах. Прама на ўзбярэжжы можна было знайсці жыллё за ўмераную плату. Мы выбралі студэнцкую гасцініцу, таму што па міжнародным студэнцкім білеце можна было разлічваць на прыстойныя скідкі. Усе літаральна валіліся з ног, таму ўдзельнікі паездкі амаль адразу ж заснулі.

Мы з Андрэем (дарэчы, адзіныя з усіх удзельнікі ваяжу беларусы) вырашылі яшчэ раз выбрацца на Лох-Нес ноччу. Прыхапіўшы фотаапарат і некалькі бляшанак піва, павольна падышлі да вады. Была густая цемра. Нават фотаўспышка была не ў сілах рассеяць змрок далей, чым на два-тры метры. Так і атрымалася на фатаграфіях — нібыта стаіш на беразе Лох-Неса, а ззаду суцэльны шэры фон.

Так і не патрымаўшыся за ножкі або ласты няўлоўнай Нэсі, мы развіталіся раніцай з возерам Лох-Нес, якое стала нам амаль родным. Аднак у свядомасці кожнага з удзельнікаў экспедыцыі засталіся незабыўныя ўспаміны пра гэта месца, якое адносіцца да шэрагу загадкавых з'яў на планеце. Чуткам пра існаванне лох-нескай пачвары каля 1500 гадоў, але далёка не кожнаму, хто пабываў на возеры, удалося хоць на секунду пабачыць падводнага монстра. У тым ліку і нам. На світанні, націснуўшы на развітанне на клаксоны, мы выехалі ў бок Глазга.

Па дарозе назад нам пашчасціла пабываць у многіх памятных месцах Шатландыі. Цікава было пахадзіць па полі бітвы, дзе ў 1314 годзе шатландцы ўпершыню атрымалі перамогу над англійскай арміяй. Дарэчы, некаторыя эпізоды са знакамітага фільма "Смелае сэрца" былі зняты менавіта тут. На месцы змагання знаходзіцца вялізны камень, на якім высечаны памятны надпіс пра гэтую гістарычную падзею.

Горад Глазга, які займае першае месца ў Вялікабрытаніі па суднабудаўніцтве, уразіў нас прыгожымі старадаўнімі будынкамі ў цэнтры і шырачэзнай ракой Клайд, якая разразае горад на дзве амаль роўныя часткі. Сёйтой з нас хацеў застацца ў горадзе на начную дыскатэку. Вадзіцелі, якія вынеслі на сваіх плячах увесь цяжар дальніх перагонаў, марылі проста адаспацца. У выніку большасць удзельнікаў паездкі выказаліся за тое, каб ехаць далей. Прычым, упершыню за ўвесь час падарожжа, экіпажы машын дзіўным чынам раздзяліліся. Мы, гэта значыць тыя, хто ехаў у "Рэно", вырашылі завітаць у Бірмінгем. "Сеат" жа з яго экіпажам накіраваўся да Лондана. У Бірмінгем мы трапілі раніцай. Толькі ўзышло сонца, і гарадскія пейзажы выглядалі проста фантастычна. Груба апрацаваная каменная статуя суседнічала з вытанчаным, калі не сказаць ювелірнай работы, помнікам лорду Гладстану. У канцы XIX стагоддзя ўрад Англіі, які ён узначальваў, ажыццявіў захоп Егіпта. Удосталь налюбаваўшыся старадаўнімі плошчамі з дзівоснымі фантанамі, велічнымі будынкамі, падобнымі да палацаў, мы нарэшце выбраліся на трасу, што вяла на поўдзень.

Пад вечар за вокнамі аўтамабіля замільгалі знаёмыя краявіды. Палі, дзе зелянеў лікс (па-нашаму — лук-парэй), ужо зачакаліся сваіх работнікаў. Праехаўшы больш за дзве тысячы кіламетраў на поўнач і назад, мы вярнуліся ў Хершэм, затраціўшы на ўсё падарожжа больш як чацвёра сутак.

**Станіслаў ДАРАШЧОНАК,**
**студэнт факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта.**

НА ЗДЫМКАХ: від на Эдынбург; на Поўначы Вялікабрытаніі; возера Лох-Нес.

**Фота аўтара.**

Кожны, напэўна, марыць аб тым, як больш цікава і весела правесці канікулы, ды яшчэ аб тым, каб яны надоўга запомніліся.

Здзейсніць мары дзяцей, якія пражываюць на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі рэспублікі, дапамагло грамадскае аб'яднанне "Беларускі зялёны крыж", якое арганізавала экалагічную змену "Лясныя рабінзоны" ў дзіцячым рэабілітацыйна-аздараўленчым летніку "Лясная паляна" — ля вёскі Жодзішкі Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці.

У цудоўнае і маляўнічае месца на Віліі прыехалі дзеці з Гомельскай вобласці, Бранскай вобласці Расійскай федэрацыі, а таксама дзеці бежанцаў з Афганістана і Грузіі.

Рэха лета

## Здружыла дзяцей Вілія

Аздараўленчы летнік "Лясная паляна" гасцінна расчыніў дзверы шматнацыянальнай дзіцячай сям'і, якая налічвала больш за 200 дзяўчынак і хлопчыкаў.

Для дзяцей было арганізавана добрае і якаснае шасціразовае харчаванне. У летніку яны атрымалі магчымасць прайсці курс разнастайнага лячэння, карыстацца спартыўнымі пляцоўкамі, трэнажорнай залай...

Але самымі добрымі лекамі, на мой погляд, былі вельмі цёплыя і сяброўскія ўзаеміны паміж педагогамі і дзецьмі.

Было вельмі прыемна працаваць як з вопытнымі, так і з маладымі калегамі з розных куткоў Беларусі, якія вельмі добрасумленна адносіліся да сваёй працы і добра ведалі, як знайсці шлях да дзіцячых душ. Менавіта спалучэнне вопыту і маладосці было важнейшай перадумовай паспяховай работы.

А мерапрыемстваў ладзілася шмат. Гэта і адукацыйна-выхаваўчая праграма "Лясная школа", якая давала магчымасць атрымаць веды па экалогіі, геалогіі, гідралогіі ў час заняткаў на прыродзе, "Школа Рабінзонаў" — навучанне прасцейшым навыкам выжывання ў экстрэмальных сітуацыях, авалоданне тэхнікай спартыўнага турызму, арыентавання. А якімі запамінальнымі сталіся аднадзённыя і двухдзённыя паходы па маляўнічых кутках Смаргоншчыны, падчас якіх дзеці змаглі прадэманстраваць не толькі свае фізічныя якасці, але і вытрымку, гатоўнасць аказаць дапамогу сябру, а таксама пасядзець ля турысцкага вогнішча і паспяваць шчырыя песні.

У летніку працавала больш за 10 разнастайных гурткоў, і дзеці маглі ў поўнай меры раскрыць свой талент.

Запамятаўся цікавы і вясёлы КВЗ паміж камандамі педагогаў і дзяцей. Да заканчэнні гульні у радасным хваляванні спявалі, абняўшыся, дзеці і дарослыя.

Не абышлося без сустрэч з цікавымі людзьмі. Так, вялікую цікавасць у дзяцей выклікала сустрэча з вядомай беларускай альпіністкай Ірынай Вяленковай, яна паказала відэафільмы, расказвала аб узыходжанні на вяршыні Гімалаяў, Цянь-Шаня, Кардыльераў.

Прыемна было бачыць, як дзеці розных нацыянальнасцей хутка знайшлі агульную мову. Дух сяброўства панаваў над Віліяй усю змену. Падумалася, вось бы некаторым палітыкам узяць прыклад з дзяцей. Здаецца, дзяцінства — гэта не толькі пэўны перыяд у жыцці чалавека, а таксама і пара набыткаў пэўных маральных якасцей.

...Адыходзілі "Ікарусы" з пляцоўкі летніка. Слёзы развітання на вачах дзяцей і дарослых, аўтографы у падораных кнігах, абмен адрасамі, цёплыя словы пажаданняў. Можа сустрэнемся зноў? Да пабачэння, "Лясная паляна".

**Сяргей КЛЁСАЎ,**
**настаўнік Сялявіцкай сярэдняй школы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці.**

Спорт

## Вось дык васьмікласнік!

У новы рэйтынг Міжнароднай федэрацыі па шашках-64 (рускія шашкі) уключаны і вядучыя беларускія спартсмены. Спіс беларусаў узначальвае міжнародны гросмайстар Віталь Габрыялян з Мінскай вобласці з рэйтынгам 2668. Гэта — трэці паказчык у свеце, а першы (2680) — у расіяніна Аляксандра Кандаурава. Пасля В.Габрыяляна ідуць гросмайстры мінчанін Аркадзь Плакхін і Андрэй Валюк з Гродна.

У дзясятку мацнейшых беларусаў паводле рэйтынгу ўваходзіць і 13-гадовы міжнародны майстар — васьмікласнік сярэдняй школы № 7 Ваўкавыска Ігар Міхальчанка. Дарэчы, ён як пераможца чэмпіянату Беларусі 2000 года сярод дарослых шашыстаў пакуль застаецца чэмпіёнам краіны — чэмпіянат 2001 года адклаўся і пакуль не праводзіўся. Аднак у мінулым годзе тады яшчэ 12-гадовы кандыдат у майстры спорту Ігар Міхальчанка сенсацыйна пацясніў на другое-трэцяе прызавыя месцы гросмайстраў А.Валюка і А.Плакхіна.

**Вільям АСТРЫНСКІ,**
**былы чэмпіён БССР па шашках.**

# Кветкі нашага саду

### Шыпшына

Канец верасня. Шаты дрэў пераліваюцца ад цёмна-зялёнага да густа-жоўтага колеру. Яркім аранжавым палымнеюць клёны, адчайна чырванее рабіна.

Шыпшына, як належыць добрасумленнай грамадзянцы кветкавай дзяржавы, даўно адцвіла, і на месцы пяшчотна-ружовых кветак пярэсцяцца ярка-аранжавыя плодзікі.

І тут, надзіва суседкам, на адным з кустоў шыпшыны, цёмна-зялёнае ўбранне якога ўжо густа перасыпана жоўтым колерам, ярка загарэўся кветкавы бутон.

"Што надумала: зацвіла ў яе гады, ды яшчэ ў такую позную пару", — шапталі кумачкі-рабіны. Разважліва даводзіў пажылы клён: "Ці не позна пра каханне ўздумала, суседка? Во, ужо галава ў цябе сівая, а ты як у юнацтве палымнееш?"

А між тым, стомленыя пахмурныя людзі ішлі каля шыпшыны і, калі заўважалі нечакана яркую кветку сярод восеньскіх колераў, погляд іх святлеў, многія ўсміхаліся, на тварах яшчэ доўга захоўваўся задуменна-лятуценны выраз. Усе ўспаміналі пра вясну і думалі аб тым, што кахаць ніколі не позна.

### Традэсканцыя

Традэсканцыі не падабалася паветра на кухні, таму расла яна павольна і мела нейкі сухотны выгляд.

Гаспадыня ўжо хацела яе выкінуць, але пашкадавала, ды паставіла на балкон. "Ну і замухрышка", — пагардліва падціснулі пялёсткі яркія герані. "У яе нават ніводнай кветачкі няма", — зняважліва дадала пышная гартэнзія. А ганарлівая прыгажуня-ружа нават не зірнула на новенькую: няма калі ёй заўважаць усялякіх недарэк, яна робіць найважнейшую справу— клапоціцца пра сябе каханую.

Традэсканцыя іх не слухала. Яна расправіла свае лісцейка, прагна дыхала чыстым паветрам — і кожная клетачка яе істоты поўнілася радасцю жыцця.

Аднойчы на балкон прыляцеў юны матылёк і залюбаваўся: "Ах, якая ж ты слаўная, традэсканцыя! Якія ў цябе прыгожыя лісточкі, якія грацыёзныя сцяблінкі!"

Матылёк прылятаў кожны дзень і кожны дзень знаходзіў новыя словы аб прыгажосці традэсканцыі.

Нават гаспадыня здзівілася: "Пабачце, якой прыгажуняй стала мая недарэка. Нават воблачка пяшчотна-белых кветак з'явілася! Ну, проста нявеста! Вось дык дзіва!"

А нічога дзіўнага якраз і няма.

Мы ўсе прыгажэем, калі нас кахаюць.

### Кветкавыя пакуты

Дзве юныя сарокі адна перад адной стракаталі:

"Ах, што я пачула, што пачула! — спяшалася расказаць навіну адна, — як пакутуе бедная фіялка: гаршчочак цесны, паліваюць дрэнна, праветрываюць пакой рэдка. Яна так марыць пра сонейка, свежы ветрык, прасторную клумбу!"

"Ах, што я пачула, што я пачула! — перабівае другая, — як пакутуе бедная рудбекія! Вецер халодны, дождж калючы, ды яшчэ ў любы момант могуць зрэзаць на букет. Як яна марыць расці ў гаршчочку на цёплым падаконніку!"

Тут дзве стракатухі змоўклі і здзіўлена ўтаропіліся адна на адну.

Што тут казаць, вядомая ісціна: там добра, дзе нас няма.

### Белая фіялка

Гаспадыня паставіла на падаконнік гаршчок з кветкай са словамі: "Ну, думаю, ты будзеш маёй лепшай кветкай!" Ох, не трэба было ёй так гаварыць! Усе кветкі нядобра паглядзелі на новенькую. Калі фіялка зацвіла, усе ахнулі, такімі незвычайна прыгожымі былі яе махровыя кветкі і кіпенна-белыя з пяшчотна-ружовымі кропелькамі па краёчках. Гаспадыня галасна, з захапленнем расхвальвала прыгажосць фіялкі, ганарылася ёю. "Паглядзіце на гэтую ганарліўку, чым тут ганарыцца — белым колерам? — зелянела ад злосці гартэнзія, — Ды я, як толькі пажадаю — сама белымі кветкамі магу зацвісці".

"Можна падумаць, гэта яна — царыца кветак", — пагардліва крывіла чырвоныя вусначкі ружа. "Паглядзіце, начапіла белую сукенку і ганарыцца, быццам яна не такога ж роду, як і мы", — абураліся ружовыя фіялкі.

"Ды не ганаруся я, проста ў мяне такі сорт", — даводзіла белая прыгажуня. Аднак яе ніхто не слухаў, усе фыркалі і адварочваліся.

І вось аднойчы гаспадыня прыйшла на кухню і вохнула ад засмучэння: белыя пялёсткі пажухлі, лісцейка скурчылася як ад полымя, прыгажуня завяла.

Гаспадыня, безумоўна, не зразумела, што белую фіялку згубіла чорная зайздрасць.

### Лясная герань

Сярод зеляніны яркім пунсовым колерам квітнела герань. Была яна такой пранізліва-прыгожай, што птушкі заміралі ў палёце і любаваліся чароўнай прыгажосцю.

"Ах, ну проста пунсовая кветачка!" — захапіўся грыбнік, які выпадкова зазірнуў на паляну.

Ён далікатна выкапаў кветачку, прынёс у свой садок, пасадзіў на клумбе. Кожны дзень чалавек паліваў кветачку, некалькі разоў падліваў угнаенні. Але, нягледзячы на ўсе клопаты, пунсовыя пялёсткі скурчыліся, кветачка звяла.

На чужыне не кожная кветачка прыжыцца можа. Вольна і моцна трымала герань сваё карэнне толькі няхай і ў беднай, але роднай зямельцы.

### Зусім простая гісторыя

Гаспадыня паехала ў адпачынак і даручыла суседцы паліваць кветкі. Суседка даглядала кветкі неахайна, так што многія раслінкі падсохлі і завялі. Гаспадыня завохкала, зажурылася, аднак адразу ўзялася за працу. Перасадзіла кветкі, шчодра палівала іх кожны дзень, прыгаворваючы: "Ну, што ж гэта вы, мае каханенькія-родненькія, задумалі? Я вас так даглядала, так песціла, і ўсё дарэмна?"

Першымі ачуліся і ярка заквітнелі герані, за імі — фіялкі, фуксія, гартэнзія і бальзамін. За вокнамі — халодны вецер, калючы дождж, а на падаконніку — ласкавае лецейка з яркай зелянінай і прыгожымі красачкамі.

От яно як атрымліваецца: і краска разумее, калі да яе — з пяшчотай і каханнем.

Нават кветка разумее...

### Амаль як у песні

Па баках асфальтавай сцяжынкі растуць дрэвы. Малады клён і юная рабіна, амаль як у песні перапляліся галінамі. І вось ужо сярод рабінавай лістоты праглядаюць кляновыя лісты, а на зграбнай жоўтасці клёна ярка блішчаць рабінавыя гронкі.

Дрэвы нахіліліся адно да аднаго, перапляліся, нібы жадаючы зліцца ў адзінае. Ды дзе там, хоць і вузенькая між імі сцяжынка, а не перайсці яе, не пераступіць...

У дрэў — як у людзей, як у песні — у жыцці ёсць такія перашкоды, якія нішто не адолее, нават каханне.

### Стагоднік

Сярод пышнае зеляніны і квецені не цвіў адзін калючы стагоднік. "Калі зацвіцеш, сусед?" — з'едліва падбівала ярка-чырвоная герань. "Хіба ты не ведаеш, як яго завуць? Мабыць, нездарма, ён раз у сто гадоў цвіце", — дадавала яе ружовая сяброўка. "Распусціў свае калючкі, усе лісточкі мне пашкодзіў", — скардзілася далікатная бягонія.

Але тут у пакой зазірнула гаспадыня. Яна зрэзала лісток стагодніка і прыклала да ранкі на руцэ. "Дзякуй табе, сябра, — сказала яна стагодніку, — усю маю сям'ю ты лечыш, усім дапамагаеш".

Тут балбатухі-суседкі збянтэжана змоўклі.

Стагоднік, безумоўна, мог бы зараз адказаць суседкам-дурнічкам, але ён прамаўчаў. Стагоднік быў ужо немалады і разумны, і думкі яго былі высокія і мудрыя. Стагоднік ужо даўно зразумеў: нават калі табе суджана пражыць сто гадоў, усё роўна не трэба бавіць час на мышыную валтузню.

### Няхай жыве "сёння"!

Восень у той год была надзіва цёплая, сухая і сонечная. Юная яблынька, якой так хацелася хутчэй стаць дарослай, не ўстрымалася і выбухнула — заіскрылася пяшчотна-ружовай квеценню. Ах, якая яна была прыгажуня! Хто не ішоў — захапляўся. Маладым ля такой прыгажосці хацелася спяваць ад шчасця. Больш сталыя людзі са шчаслівым замілаваннем успаміналі сваю вясну. Усе разумелі, што прыгажосць яблыні — толькі на імгненне, не сёння-заўтра прыйдуць маразы і пяшчотна-ружовы цудператворыцца ў брудныя лахманы.

Аднак жа яблынька была такой прыгожай, такой адчайна-шчаслівай, што ніхто не хацеў думаць пра журботнае "заўтра".

Няхай жыве "сёння"!

**Галіна КАПЕЦКАЯ,**
**настаўніца гімназіі Светлагорска.**

## Другі вынік на планеце

У Брэсце ў межах праграмы Рэспубліканскіх студэнцкіх гульняў, якія праводзіць Рэспубліканскі цэнтр фізічнага выхавання і спорту навучэнцаў і студэнтаў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, завяршыўся чэмпіянат па лёгкай атлетыцы.

Спаборніцтвы адбыліся на добрым арганізацыйна-масавым узроўні. У выніку студэнты паказалі нядрэнныя вынікі.

Асабліва паспяхова выступаў Генадзь Мароз з Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, якому не было роўных. У скачках у вышыню ён адолеў 2,33 м — другі вынік сезона ў свеце.

У спаборніцтвах кідальнікаў молата перамогу атрымаў студэнт Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі Андрэй Варанцоў. Яго вынік — 77,23. Адзнаку ў 62,17 перакрыла Таццяна Дзёміна з Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта. А ў кіданні дыска — 62,50 — вызначылася Людміла Старавойтава з Гомельскага дзяржаўнага універсітэта. Сярод мужчын перамог Леанід Чарэўка з Міжнароднага гуманітарна-эканамічнага інстытута — 64,58.

Лёгкаатлет Ігар Жаваронак з Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта двойчы ўзнімаўся на п'едэстал гонару. Яго вынік — 3000 метраў з перашкодамі і 5000 метраў.

Мацнейшай у забегу на 400 метраў з бар'ерамі аказалася студэнтка Міжнароднага гуманітарнага эканамічнага інстытута Таццяна Курачкіна — 58,7. Дыстанцыю 100 метраў з бар'ерамі хутчэй за ўсіх пераадолела яе калега з гэтай жа ВНУ.

**Пётр ШУБЯНОК.**

**Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук**

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэгістрацыйны нумар 197.

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-90-63, 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-40-63; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання, навукі — 36-43-71, 36-90-63; інфармацыі —36-43-71; ВНУ і тэхнікумаў — 36-44-25; прафтэхадукацыі, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымк і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Уладзімір НОВІК.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", 220041, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 Замова №5579
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 17.9.2001 г. у 18.10
Наклад 30.000 паасобнікаў.